*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# Наша слова




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года**

**№ 14 (1425) 3 КРАСАВІКА 2019 г.**

## Дарагія сябры "Нашага слова"!

У красавіку мы ў цэлым захавалі пазіцыі і нават злёгку іх палепшылі. Ёсць нязначныя падзенні і нязначны рост па асобных абласцях. Добрае слова трэба сказаць пра горад Магілёў, дзе падпіска вырасла ў паўтара разы. Падрасла падпіска ў Менску, Менскім раёне, Валожыне, Слуцку, іншых раёнах Менскай вобласці, што прывяло і да значнага росту па ўсёй Меншчыне.

| | Студзень | Красавік |
|---|---|---|
| **Берасцейская вобласць:** | | |
| Баранавічы р.в. | 14 | 13 |
| Бяроза р.в. | 7 | 8 |
| Белаазёрск р.в. | - | - |
| Бярэсце гор. | 6 | 6 |
| Ганцавічы р.в. | 1 | 1 |
| Драгічын р.в. | - | - |
| Жабінка р.в. | - | - |
| Іванава р.в | 1 | - |
| Івацэвічы р. в. | 3 | 2 |
| Камянец р.в. | 1 | 1 |
| Кобрын гор. | 2 | 2 |
| Лунінец гор. | 1 | 1 |
| Ляхавічы р.в. | 1 | 1 |
| Маларыта р.в. | - | - |
| Пінск гор. | 6 | 6 |
| Пружаны р.в. | 5 | 4 |
| Столін р.в. | - | - |
| **Усяго:** | **48** | **45** |
| **Віцебская вобласць:** | | |
| Бешанковічы р.в. | - | - |
| Браслаў р.в. | 1 | 1 |
| Віцебск гор. | 20 | 23 |
| Віцебск РВПС | - | - |
| Верхнедзвінск р.в. | 4 | 5 |
| Глыбокае р.в. | 6 | 5 |
| Гарадок р.в. | 3 | 3 |
| Докшыцы р.в. | 2 | 2 |
| Дуброўна р.в. | 1 | 1 |
| Лёзна р.в. | 1 | 1 |
| Лепель р. в. | 1 | 1 |
| Міёры р.в. | 1 | 1 |
| Наваполацк гор. | 17 | 19 |
| Орша гор. | 6 | 6 |
| Полацк гор. | 4 | 3 |
| Паставы р.в. | 5 | 3 |
| Расоны р.в. | 1 | 1 |
| Сянно р.в. | 1 | 1 |
| Талочын р.в. | 1 | 1 |
| Ушачы р.в. | 3 | 3 |
| Чашнікі р.в. | 1 | 1 |
| Шаркоўшчына р.в. | 6 | 6 |
| Шуміліна р.в. | - | - |
| **Усяго:** | **85** | **87** |
| **Менская вобласць:** | | |
| Беразіно р.в. | 2 | 2 |
| Барысаў гор. | 6 | 7 |
| Вілейка гор. | 2 | 2 |
| Валожын гор. | 5 | 7 |
| Дзяржынск р.в. | 6 | 7 |
| Клецк р.в. | - | - |
| Крупкі р.в. | 2 | 2 |
| Капыль р.в. | 2 | 2 |
| Лагойск | 5 | 5 |
| Любань р.в. | 2 | 1 |
| Менск гор. | 194 | 199 |
| Менск РВПС | 10 | 14 |
| Маладзечна гор. | 10 | 11 |
| Мядзель р.в. | 2 | 2 |
| Пухавічы РВПС | 4 | 4 |
| Нясвіж р.в. | 33 | 27 |
| Смалявічы р.в. | 2 | 3 |
| Слуцк гор. | 5 | 7 |
| Салігорск гор. | 3 | 3 |
| Ст. Дарогі р.в. | - | - |
| Стоўбцы р.в. | 3 | 3 |
| Узда р.в. | 1 | 1 |
| Чэрвень р.в. | 2 | 1 |
| **Усяго:** | **301** | **310** |
| **Гомельская вобласць:** | | |
| Буда-Кашалёва | 3 | 3 |
| Брагін р.в. | 1 | 1 |
| Ветка р.в. | - | - |
| Гомель гор. | 16 | 15 |
| Добруш р.в. | 2 | 1 |
| Ельск р.в. | 1 | 1 |
| Жыткавічы р.в. | 13 | 11 |
| Жлобін гор. | - | - |
| Калінкавічы гор. | 1 | 1 |
| Карма р.в. | 2 | 2 |
| Лельчыцы р.в. | - | - |
| Лоеў р.в. | - | - |
| Мазыр гор. | 2 | 1 |
| Акцябарскі р.в. | 1 | 1 |
| Нароўля р.в. | 1 | 1 |
| Петрыкаў р.в. | 1 | 1 |
| Рэчыца гор. | 1 | 2 |
| Рагачоў гор. | 1 | 1 |
| Светлагорск гор. | 1 | 1 |
| Хойнікі р.в. | - | - |
| Чачэрск р.в. | - | - |
| **Усяго:** | **48** | **43** |
| **Гарадзенская вобласць:** | | |
| Бераставіца | 3 | 2 |
| Ваўкавыск гор. | 4 | 4 |
| Воранава р.в. | 16 | 16 |
| Гародня гор. | 31 | 32 |
| Гародня РВПС | 14 | 14 |
| Дзятлава р.в. | 4 | 3 |
| Зэльва р.в. | 1 | 1 |
| Іўе р.в. | 2 | 2 |
| Карэлічы р.в. | 1 | 1 |
| Масты р.в. | 1 | 1 |
| Наваградак гор. | 4 | 4 |
| Астравец р.в. | 1 | 1 |
| Ашмяны р.в. | 4 | 4 |
| Смаргонь гор. | 8 | 8 |
| Слонім гор. | 9 | 8 |
| Свіслач р.в. | 4 | 4 |
| Шчучын р.в. | 2 | 3 |
| Ліда | 49 | 49 |
| **Усяго:** | **158** | **157** |
| **Магілёўская вобласць:** | | |
| Бабруйск гор. | 1 | 1 |
| Бялынічы р.в. | - | - |
| Быхаў р.в. | 1 | 1 |
| Глуск р.в. | - | 1 |
| Горкі гор. | 1 | 1 |
| Дрыбін р.в. | - | - |
| Кіраўск р.в. | - | - |
| Клічаў р.в. | 2 | 2 |
| Клімавічы р.в. | - | - |
| Касцюковічы р.в. | - | - |
| Краснаполле р.в. | - | - |
| Крычаў р.в. | - | - |
| Круглае р.в. | 1 | 1 |
| Мсціслаў р.в. | 2 | 2 |
| Магілёў гор. | 14 | 21 |
| Асіповічы гор. | 7 | 8 |
| Слаўгарад р.в. | 2 | 1 |
| Хоцімск р.в. | - | - |
| Чэрыкаў р.в. | 1 | 1 |
| Чавусы р.в. | - | - |
| Шклоў р.в. | 2 | 1 |
| **Усяго** | **34** | **41** |
| **Усяго на краіне:** | **674** | **683** |


ISSN 2073-7033


# Будслаўскі фэст - частка сусветнай духоўнай спадчыны

31 сакавіка ў бібліятэцы імя Адама Міцкевіча Чырвонага касцёла адбылася святочная вечарына, прысвечаная ўключэнню Будслаўскага фэсту ў Рэпрэзентатыўны спіс нематэрыяльнай культурнай сусветнай спадчыны ЮНЭСКА.



Больш за 400 гадоў святыня ў Будславе прыцягвае да сябе сотні вернікаў з Беларусі, Польшчы, Літвы, Расіі. Касцёл бернардынаў, пабудаваны ў 1783 годзе, абраз, як мастацкая і духоўная каштоўнасць, дзённыя і начныя набажэнствы, казанні святароў, пілігрымкі вернікаў, якія ідуць з розных гарадоў і мястэчак, працэсія, кірмаш мастацкіх вырабаў, фестываль каталіцкага і праваслаўнага друку, канцэрты моладзевых гуртоў, намёты і шчырыя размовы моладзі ля вогнішча - усе гэтыя з'явы ствараюць непаўторны каларыт штогадовага Будслаўскага фэсту.

Пра пабудову санктуарыя Маці Божай у Будславе і гісторыю цудатворнага абраза нагадаў прысутным кандыдат гістарычных навук, пробашч Чырвонага касцёла, ксёндз-канонік Уладзіслаў Завальнюк. Гэтай тэме ён прысвяціў навуковую працу ў час заканчэння вучобы ў Варшаўскай Тэалагічнай Акадэміі, і выдаў пазней асобную кнігу "Будслаўскі касцёл - святыня Беларусі".

- У 1504 годзе годзе вялікі князь Аляксандр перадаў гэтую мясцовасць з лесам ва ўладанне віленскім манахам-бернардзінам, - распавёў кс.-пробашч Уладзіслаў Завальнюк. - Па рэках Сэрвачы і Віліі дрэвы сплаўлялі на будаўніцтва касцёла св. Ганны ў Вільні.

Абраз, напісаны ў духу італьянскага Рэнесансу, быў подораны ў 1598 годзе папай Рымскім Кліментам VIII менскаму ваяводзе Яну Пацу. Пасля смерці Паца абраз перайшоў капелану Ісаку Салакаю, які ў 1613 годзе падараваў яго Будслаўскаму манастыру бернардзінаў. На абразе - срэбны аклад і карона з каштоўнымі каменнямі.

У гады Другой сусветнай вайны вернікі старэйшых пакаленняў выратавалі храм ад разбурэння. У савецкія часы святары спавядалі там толькі ноччу, схаваныя, служыць было немагчыма.

У часы перабудовы матулі і бацькі, якія захавалі веру, вярнулі належнае шанаванне Маці Божай. З 1989 года праявіўся сапраўдны пульс касцёльнага жыцця, аднавіліся пілігрымкі ў Будслаў, у наступныя гады працэсіі пашыраліся. У 2007 годзе мы правялі водную пілігрымку на сямі лодках працягласцю 308 кіламетраў па тым шляху, па якім манахі сплаўлялі лес у Вільню. З тых часоў тысячы пілігрымаў зноў сцякаюцца ў Будслаў.

- Шчырыя споведзі, адпусты, ачышчаюць і прасвятляюць душы вернікаў. Супольная малітва на роднай беларускай мове аб'ядноўвае і мабілізуе народ, стымулюе развіццё культуры і турызму. З Будслаўскім фэстам мы будзем такім народам, якім Бог хоча бачыць нас! - прамовіў ксёндз-пробашч Уладзіслаў Завальнюк. - Важна, каб усе адчулі, што на Беларусі ёсць такая святыня, якая прызнана ўсім светам!

6 гадоў таму пачалі ўзнікаць ініцыятыўныя групы, каб надаць сапраўднае шанаванне Будслаўскаму фэсту. Да мяне звярнулася Галіна Івуць і паведаміла пра збор дакументаў. Мы параіліся з прафесарам Уладзімірам Іосіфавічам Навіцкім і пачалі падрыхтоўку. З часам Міністэрства культуры правяло спецыяльнае паседжанне, некалькі гадоў ішла падрыхтоўчая праца.

Пра значэнне Будслаўскага фэсту распавяла Ала Барысаўна Сташкевіч, член Нацыянальнай камісіі па справах ЮНЭСКА, старшыня фонду "Культурная спадчына і сучаснасць".

- У 2003 годзе ЮНЭСКА прыняла Канвенцыю аб захаванні духоўнай спадчыны, якую падпісалі 175 краін, у тым ліку і Беларусь. У 2015 годзе Рэспубліка Беларусь прадаставіла пакет дакументаў, у якіх захоўвалася апісанне ўсіх каштоўнасцей Будслава і свята, якое праводзіцца штогод.

Тут прысутнічае сярэднявечная гісторыя, абраз з'яўляецца узорам мастацтва і захоўваецца ў храме, адбываецца ўрачыстая рэлігійная цырымонія. Будслаўскі фэст - гэта тое, што нас адрознівае ад іншых народаў, што нас яднае, цэментуе нацыю, выхоўвае ў духу салідарнасці. Фэст можа паслужыць далейшаму развіццю культуры, росквіту народных рамёстваў, упрыгожанню мясцовасці, паспрыяе ўстойліваму турызму.

Пра арганізацыйную працу распавяла куратар бібліятэкі імя А. Міцкевіча Галіна Фёдараўна Івуць. Яна наведвала Францыю ў 2015 годзе і была запрошана ў культурны цэнтр пры беларускай амбасадзе ў Францыі. Спадарыня Галіна перадала спіс Будслаўскага абраза ў Храм трох свяціцеляў у Парыжы. Яна сустракалася з сакратаром Камісіі па нематэрыяльнай культурнай спадчыне ЮНЭСКА .



На Міжурадавым камітэце ЮНЭСКА, якое адбывалася ў далёкай краіне Маўрыкій, 28 лістапада 2018 года было прынята канчатковае рашэнне аб уключэнні Будслаўскага фэсту ў Рэпрэзентатыўны спіс нематэрыяльнай культурнай сусветнай спадчыны ЮНЭСКА.

*(Заканчэнне на ст. 2.)*

# Зварот ТБМ

**Паважаныя выпускнікі і будучыя абітурыенты!**

Жадаем вам поспеху пры падрыхтоўцы і здачы іспытаў. Мы спадзяёмся, што пры выбары тэстаў вы аддасце перавагу беларускай мове. Мы ўпэўнены, што родная беларуская мова дапаможа вам паспяхова пераадолець выпускныя экзамены і годна падрыхтавацца да цэнтралізаваных прадметных тэстаў.

27 сакавіка 2019 г. Сакратарыят ТБМ.

# Будслаўскі фэст - частка сусветнай духоўнай спадчыны

*(Заканчэнне. Пачатак на ст. 1.)*

На паседжанні Міжурадавага камітэта ЮНЭСКА, якое адбывалася ў далёкай краіне Маўрыкій, 28 лістапада 2018 года было прынята канчатковае рашэнне аб уключэнні Будслаўскага фэсту ў Рэпрэзентатыўны спіс нематэрыяльнай культурнай сусветнай спадчыны ЮНЭСКА.

Будзь дабраславёнаю, часіна,
Як светлы цуд з'явіўся тут.
Як ахінула ласкай Божай
Зямельку гэту назаўжды
Святая Маці - воблік гожы
Яшчэ бліжэй нам праз гады.
Храм Апякункі Беларусі
Шляхі здаўна сюды вядуць,
Яму я нізка пакланюся,
Як святам вернікі ідуць.





Сведчаннем пра пешыя посныя пілігрымкі ў Будслаў, якія надаюць здароўя і бадзёрасці, падзялілася паэтка Ядвіга Іванаўна Рай, аўтарка кнігі "Малітва ў дарозе". Пані Ядвіга ходзіць у пілігрымкі больш дзесяці гадоў і занатоўвае ўсе падзеі і ўражанні аб падарожжах да святыні.

З прывітаннем да грамады звярнуліся жыхаркі Будслава Ірына Пятровіч і Яніна Дземідовіч, якія штогод гасцінна прымаюць і суткакаюць пілігрымаў. Пані Яніна, якая працуе ў школе і выкладае беларускую мову і літаратуру, падзялілася сваім вершам пра Будслаўскую святыню.

**МАЯ МАЛЕНЬКАЯ РАДЗІМА**

О Будслаў! Родная мясціна!
Дзівосны край, славуты кут...
Кранаюць купалы аблокі...
Ад святыні не адвесці вачэй.
Прыгожы, велічны, высокі,
Зірнеш на храм - і жыць лягчэй.
А Сэрвач сіняю істужкай
Віецца блізка каля ног,
Крылом махае бусел-птушка,
Мясціну гэту выбраў Бог.

З прыгожымі спевамі выступілі Таццяна Дробыш і ўдзельнікі дзіцячай студыі "Неспадзянка".

Госці вечарыны прагледзелі фільм рэжысёра Уладзіміра Арлова пра Будслаўскі фэст і пазнаёміліся з выставай мастацкіх прац фатографа Віктара Ведзеня "Дарогі, якімі мы Бога шукаем" у дольняй зале касцёла.

*Эла Дзвінская,*
*фота аўтара.*

# Крыніцы генеалагічнай асветы

Навукова-практычны семінар "Крыніцы па генеалогіі ў беларускіх архівах і бібліятэках" адбыўся 27 сакавіка ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. На ім з прэзентацыямі выступілі супрацоўнікі навукова-даследчага аддзела кнігазнаўства бібліятэкі і прадстаўнікі Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі.

Школьнікі і студэнты вывучаюць гісторыю сваіх сямей, штогод удзельнічаюць у конкурсах радаводаў, асобы сталага веку паглыбляюць свае веды. Таму зала адукацыйных тэхналогій была перапоўненай, і у ёй прысутнічалі такія аўтарытэтныя асобы, як Зміцер Дрозд, Марыя Міхайлаўна Міцкевіч і іншыя.

- У 90-тыя гады ў нашай краіне пачаўся сапраўдны генеалагічны бум, - адзначыў намеснік дырэктара Нацыянальнага гістарычнага архіва Дзяніс Васільевіч Лісейчыкаў. - Калі інфармацыя пра продкаў (дваранскага паходжання, у тым ліку рэпрэсаваных) больш не пагражала стратай кар'еры, многія беларусы пачалі займацца стварэннем радаводаў. А некаторыя захацелі пацвердзіць сваё шляхецкае паходжанне. Пошук інфармацыі стаў актуальным для многіх пры стварэнні карты паляка.

"Сайт "Архівы Беларусі" (https://archives.gov.by/) дае магчымасць атрымаць важную інфармацыю, - распавёў Дзяніс Лісейчыкаў. - Карысную інфармацыю можна знайсці на літоўскіх, латышскіх і польскіх сайтах: lietuvos paveldas, www.lvva-raduraksti.lv, www.szukajwarchiwach.pl і іншых.

20 прыходскіх архіваў цэркваў і касцёлаў адлічбаваныя (з Лоска, Міра, Радашковічаў, Ракава, Дзераўной, Ішкалдзі, Нясвіжа, Росі, Жыровічаў, Быценя і іншых гарадоў.) Ідзе праца над адлічбоўкай іншых архіўных крыніц.

Старшыня Грамадскай арганізацыі "Радавод", кандыдат гістарычных навук Вадзім Урублеўскі распавеў пра генеалагічную асвету на сеняшнім этапе, паведаміў пра розныя праекты і інтэрнэт-рэсурсы, якія дапамагаюць у пошуку продкаў. Згуртаванне беларускай шляхты не адно дзесяцігоддзе займаецца сістэматызацыяй інфармацыі пра шляхецкія роды. Такую інфармацыю можна адшукаць на сайце: www.nobility.by (forum).

Гурток даследчыкаў генеалогіі дзейнічае ў БДУ на гістарычным факультэце. Школа практычнай генеалогіі існуе ў праваслаўным прыходзе св. Мікалая Японскага, а заняткі яе праходзяць у будынку Духоўнай Акадэміі ў Менску. Праект ставіць асветніцкія задачы. Гурток " Наш радавод" існуе ў Гародні. Створаны рэсурс www.radawod.by і захоўвае карысную інфармацыю для тых, хто цікавіцца пытаннямі генеалогіі.




Каштоўную інфармацыю нясе праект "Вілейскі павет" , існуе грамадскае аб'яднанне і сайт: www.vilejski-uezd.by

У Бабруйску дзейнічае гістарычна-генеалагічнае таварыства "Истоки". Соцыёкультурны праект VEHA ажыццяўляе незалежная арт-група, якая працуе ў галіне архіўнай фатаграфіі і вуснай гісторыі. Інфармацыя пра расійскія генеалагічныя крыніцы размешчана на сайце www.forum.ugd.ru. "Беларусы імкнуцца, каб у нас існавала такая шырокая грамадская пляцоўка па генеалагічных даследваннях, як ва Украіне і Расіі",- засведчылі ўдзельнікі семінара.

Яўген Станіслававіч Глінскі, супрацоўнік Нацыянальнага архіва, папярэдзіў, што трэба быць уважлівымі ў вывучэнні дакументаў, бо здаўна існавалі фальсіфікацыі і падробкі, праз якія людзі спрабавалі далучыцца да шляхецкага саслоўя і слынных радоў. Часамі мела месца прырастанне звестак, устаўленыя вывады, якія дапісваліся пазней на старонках





метрычных дакументаў і рэвізскіх сказак.

Загадчык навукова-даследчага аддзела кнігазнаўства, кандыдат гістарычных навук Анатоль Мікалаевіч Сцебурака распавёў пра генеалагічныя крыніцы Нацыянальнай бібліятэкі. Гэта метрычныя кнігі каталіцкіх касцёлаў, праваслаўных і уніяцкіх цэркваў Берасцейскай, Гарадзенскай, Віцебскай, Магілёўскай, Менскай і Гомельскай абласцей.

Спадар Анатоль пазнаёміў з невялічкай выставай старажытных дакументаў у чытальнай зале рукапісаў. Тут можна пабачыць: алфавітны спіс народжаных і памерлых у Будслаўскай парафіі ў 1780-1855 гадах, спіс шлюбаў, метрычную кнігу Быхаўскага парафіяльнага касцёла на лацінскай мове і іншыя рэдкія дакументы.

Нацыянальны гістарычны архіў і Нацыянальная бібліятэка дапамагаюць чытачам і карыстальнікам у пошуках генеалагічных крыніц для стварэння радаводаў.

*Эла Дзвінская*,
фота з архіва Анатоля Сцебуракі.

1. Анатоль Сцебурака;
2. Паседжанне школы практычнай генеалогіі ў Менску.

# САКАВІЦКАЕ РЭХА

Вясна… Пара прыгажосці, пара кахання, пара нараджэння новага жыцця і новых спадзяванняў. Менавіта на адзін з вясновых дней UNESKO прызначыла адметную дату - Міжнародны дзень Паэзіі, які ўвесь свет адзначае 21 сакавіка, роўна праз месяц пасля Міжнароднага дня роднай мовы.

З мінулага года Магілёўская абласная арганізацыя Саюза беларускіх пісьменнікаў сумесна з гарадской арганізацыяй ТБМ з ініцыятывы Тамары Аўсяннікавай пачала адзначаць гэтую дату конкурсам мастацкага чытання ўласных вершаў "Сакавіцкае рэха". Ініцыятыву пагадзілася падтрымаць бібліятэка № 9, якой нядаўна прысвоена імя Янкі Купалы. Тут як бы імя абавязвае.

Адносна ўзросту ўдзельнікаў конкурс самы дэмакратычны: у ім могуць браць удзел і дашкольнікі, і людзі далёка не маладыя. Але творы на конкурс прымаюцца толькі на беларускай мове. Журы ацэньвае асобна тэкст твора і асобна мастацтва яго выканання. Переможцаў вызначае па суме гэтых двух уражанняў.

У мінулым годзе паказацца на конкурсе асмеліліся толькі 8 чалавек. Перамагла студэнтка факультэта журналістыкі Крысціна Башарымава.



*Арцём Новікаў*



*Спявае Васіль Аўраменка*

На гэты раз у аргкамітэт паступілі заяўкі ад 20 вершатворцаў, пераважна ад школьнікаў (!), але з'явіліся на конкурс толькі 11.

Журы ў складзе Тацццяны Барысік (віца-лаўрэат прэміі імя Ежы Гедройца), Алены Быкавай (актыўная аўтарка альманаха "Брама"), Галіны Жмачынскай (намесніца дырэктара бібліятэкі), Яраслава Клімуця (вядомы літаратуразнаўца, кандыдат філалагічных навук) і Мікалая Яцкова (старшыня абласной арганізацыі СБП) уважліва выслухала ўсіх канкурсантаў і пайшло ў іншы пакой падводзіць вынікі.

За час працы журы слухачы, якія запоўнілі бібліятэчную залу, паслухалі "ненавукова-музычную" лекцыю "Паэзія спеўная, няспеўная і няпэўная", якую прачытаў магілёўскі бард і па сумяшчальніцтве лекар Васіль Аўраменка з дэманстрацыяй спеваў розных жанраў пад гітарныя пераборы.

Затым вядоўца агучыў паэтычныя навіны Магілёва за мінулы год. Самыя цікавыя з іх: заахвочвальны прыз Паўлу Бракаву ў конкурсе "Экслібрыс", які Саюз беларускіх пісьменнікаў прысвяціў 100-годдзю БНР, выданне К. Башарымавай, леташняй пераможцай "Рэха", рускамоўнага зборніка сюррэалістых вершаў "Et cetera" і перамога Насці Мацюлінай у конкурсе "Магілёўскія зорачкі" з выдатным уласным вершам "Наказ", які 6 лютага друкаваўся ў "Нашым слове" сярод тэкстаў, рэкамендаваных для Агульнанацыянальнай дыктоўкі.

А тут і журы падаспела з вынікамі сваёй працы.

Трэцяе месца прысуджана самаму маладому ўдзельніку, пяцікласніку школы № 25 Арцёму Новікаву. Верш пра лемантар быў па-дзіцячы недасканалы, але хлопчык прачытаў яго так натхнёна, што выклікаў гучныя воплескі слухачоў і вось такую прыхільнасць журы.





*Дыплом і падарункі Наце Драздовай за ІІ месца*



*Віншаванні прымае пераможац Павел Бракаў*



*Журы*

На другім месцы навучэнка 10 класа ліцэя № 3 Ната Драздова. Ната займаецца ў літаратурным моладзевым клубе "Святліца", якім кіруе Т. Аўсяннікава, прыйшла туды з рускамоўнымі творамі, не толькі паэтычнымі, а на "Рэха" вырашыла прад'явіць свае першыя беларускія вершы. І ў гэтым выпадку першы блін аказаўся зусім не камяком.

А перамог журналіст Павел Бракаў з мініпаэмкай "Абвінавачваецца свабода!", прысвечанай апошнім дням Кастуся Каліноўскага. Менавіта гэты твор высока ацаніла і журы "Экслібрыса".

Кожны ўдзельнік атрымаў каляровае пасведчанне аб сваім удзеле ў конкурсе. А пераможцы атрымалі дыпломы, салодкія падарункі ад фундатара конкурсу, індывідуальнага прадпрымальніка Сяргея Дымкова і асобнікі апошняга выпуска альманаха "Брама". "Браму" ў якасці заахвочвальнага прыза падарылі і тым удзельнікам, якія былі блізкімі да прызавых ацэнак, Мікалаю Сувораву і Ніне Канаплёвай.

*Міхась Булавацкі,*
*Магілёў.*

# Дзейнасць Рады ТБМ імя Т. Касцюшкі Кастрычніцкага р-на г. Менска

Многа гадоў, ад самага ўтварэння, наша рада няўхільна прытрымлівалася сваёй добрай традыцыі: раз ці два на год мы праводзім вельмі шырокае паседжанне з запрашэннем грамадскасці. Месца правядзення - малады хвойны лес, які ўшчыльную прылягае да “маёнтка” (лецішча) сп. Яна Грыба. Месца прыдатнае тым, што ад электрычкі - 800 м, а за сталом, які стаіць у лесе і можа нарошчвацца практычна бясконца, хапае месца ўсім (а збіраецца грамада да 100 і болей чалавек).




Ян Грыб з’яўляўся старшынём рады многа гадоў запар, а цяпер ён абраны ганаровым старшынём.

Такія пашыраныя паседжанні прымяркоўваюцца пад самыя значныя падзеі з жыцця краіны: гістарычныя даты, юбілеі знакамітых людзей Беларусі, культурныя з’явы. Адкрываецца паседжанне заўсёды агульным спевам малітвы Н. Арсенневай “Магутны Божа”.

З гонарам і ўдзячнасцю ўспамінае незабыўных лепшых людзей Радзімы, нашых сяброў, якія ў свой час сістэматычна бралі ўдзел у такіх нашых імпрэзах. Гэта: Мікола Ермаловіч, апантаны выдатны гісторык, які самаахвярна адраджаў для нас нашае ВКЛ, прафесар Юрась Хадыка, блізкі сябар нашай рады; прафесар гісторык Анатоль Грыцкевіч; знаны паэт, грамадскі і дзяржаўны дзеяч Генадзь Бураўкін. Усе яны ахвотна ўдзельнічалі ў нашых паседжаннях і трымалі сваё важкае слова.





Мы таксама ўдзячныя паважанаму пісьменніку-гісторыку Уладзіміру Арлову, які часта адклікаецца на нашыя запрашэнні, выступае з лекцыямі, праводзіць прэзентацыі сваіх чарговых кніг.

Бываюць гасцямі ў нас паэты Міхась Скобла, Уладзімір Някляеў, Славамір Адамовіч ды інш. Мастакі Аляксей Марачкін, Мікола Купава, Алесь Шатэрнік; вядомы мовазнавец Вінцук Вячорка; дэпутаты ВС 12-га і 13-га склікання.

Паседжанні заўсёды заканчваюцца культурнай часткай: гурты “Ліцьвіны”, “Рада”, барды Зміцрок Вайцюшкевіч, Зміцрок Бартосік, Аляксей Галіч, Віталь Равінскі ды інш. Асаблівую ўдзячнасць мы выказваем нашай вядомай пявунні Таццяне Грыневіч, нашыя беларускія песні ў яе выкананні гучаць асабліва пранікнённа і кранальна.

І яшчэ адзін момант: часам наведвае нас легенда беларускага тэлебачання, любоў усёй краіны Зінаіда Бандарэнка. Яе голас да гэтага часу гучыць так чароўна і міла. Часам чытае вершы самога Яна Грыба, за што ад мяне ёй нізкі паклон.

Нядаўна наша рада амаль усім складам ездзіла на ўсталяванне помніка нацыянальнаму герою краіны Тадэвушу Касцюшку, імя якога мы з гонарам носім.

Хоць мы не палітычная арганізацыя, але не можам не адклікацца на такія падзеі, як расейская акупацыя Крыма і вайна з Украінай, пагроза незалежнасці Радзімы ды інш.

Рада не спыняе і не спыніць работу, нягледзячы на ніякія неспрыяльныя ўмовы.

***Ганаровы старшыня Ян Грыб.***

# Віншуем сяброў ТБМ, якія нарадзіліся ў красавіку

Абакунчык Галіна
Абрамовіч Віталь Мар'янавіч
Адынец Сяргей
Аксак (Арлова) Валянціна Ів.
Аляксандраў Уладзімір Леан.
Аляхновіч Андрэй Пятровіч
Анацка Дзмітры Юр'евіч
Андрэенка Таццяна Пятроўна
Апяцёнак Мікалай Мікалаевіч
Арабей Віталь Генадзьевіч
Арлоў Сяргей Аляксеевіч
Арэп'ева Вольга Генадзьеўна
Асіеўская Крысціна Эрнест.
Астапенка Аляксандр
Астапеня Рыгор Яўгенавіч
Астраўцоў Сяргей Аляксанд.
Атрашэнка Сяргей Нікіфар.
Аўшукоў Леанід Аляксандр.
Ашурык Андрэй Міхайлавіч
Багдановіч Юры Уладзіміравіч
Базнікін Юры Іванавіч
Балушэўская Ірына
Бандарэнка Зінаіда Аляксандр.
Бараноўская Вольга Аляксан.
Бараноўскі Уладзімір Мікал.
Барскі Віктар Яўгенавіч
Барысевіч Даніла Андрэевіч
Басякова Аліна
Болтак Аляксандр
Брылеўская Наталля Міхайл.
Будай Людміла
Булатоўскі Арцём Ігаравіч
Бульянкова Яніна
Бухоўская Яніна
Быль Віталь Анатольевіч
Вайцэховіч Зінаіда Афанас.
Вайцэховіч Эдуард Антонавіч
Вайцяховіч Марыя
Вакар Людміла Уладзіміраўна
Валадзько Вадзім Пятровіч
Валынец Алена
Варган Віталь
Васільеў Павел Аляксеевіч
Васількоў Віталь Рыгоравіч
Ваўкавец Яўген
Вераб'ёў Віталь
Вінаградаў Дзмітры Мікалаев.
Вінаградаў Павел Юр'евіч
Войкель Павел Анатольевіч
Воўкава Вікторыя Анатол.
Вярбоўская Ірына Леанідаўна
Гагалінская Людміла
Гаеўская Аляксандра Рамуал.
Гапановіч Іван
Гарадовіч Ала Леанідаўна
Гардынец Лідзія Міхайлаўна
Гарэлікава Тамара Пятроўна
Гасюк Марына
Гладкая Анастасія Мікалаеўна
Гоеўская Алеся
Грыгаркевіч Вадзім Юр'евіч
Грынявецкая Надзея Канстанц.
Грынявіцкі Юры Анатольевіч
Грыцкевіч Аляксандра Ал.
Гуркова Аніта Гражына Ал.
Гучак Вольга Уладзіміраўна
Дайлід Павел Канстанцінавіч
Дарафейчык Ганна
Дарога Мікалай Філіпавіч
Даўгашэй Галіна Аляксандр.
Дземідзенка Анастасія Алякс.
Дзенісевіч Ніна
Дзінгілеўскі Віталь Віктаравіч
Дзьячкоў Алег Уладзіміравіч
Дзябёлая Алена Віктараўна
Дзягілева Галіна
Дзям'яненка Алесь Мікалаевіч
Дзяргач Галіна Іванаўна
Доўкша Ірына
Драйліх Алена Уладзіміраўна
Дубіцкая Сцяпаніда
Дулько Вольга
Дундалевіч Людміла
Ельяшэвіч Ірына
Ермаловіч Канстанцін Уладзім.
Жукаў Вітаўт В.
Заблоцкі Максім Мікалаевіч
Завадская Алена Міхайлаўна
Занкевіч Вольга
Захарэвіч Алена Міхайлаўна
Зверава Тамара Мікалаеўна
Звярок Андрэй Сяргеевіч
Зелянеўская Аксана Міхайл.
Зіноўева Святлана
Зуева Ларыса Алегаўна
Іванова Ніна
Іваноў Ігар Віктаравіч
Івашчанка Аляксандр Анатол.
Ільніцкі Кірыла
Ільючык Мікалай Антонавіч
Іотчанка Настасся Аляксееўна
Іўчына Таццяна Сяргееўна
Кабзар Анатоль Ігаравіч
Кадушкевіч Іван Антонавіч
Казакевіч Юры Аляксандр.
Казловіч Алена
Казмерчак Ігар Міхайлавіч
Каляда Надзея Сяргееўна
Каляда Наталля Васільеўна
Камлюк Алесь Антонавіч
Кананові Аляксандр Алякс.
Канапацкі Вадзім
Караленя Жанна Сямёнаўна
Карлінская Тамара Іванаўна
Карповіч Алесь Аляксандр.
Касая Ганна
Кастусёў Рыгор Андрэевіч
Касьянчык Святлана Васіл.
Кацэвіч Ірына Мікалаеўна
Качан Алена Станіславаўна
Кашалькова Марыя Якаўлеўна
Кашэль Кастусь
Кісялёва Святлана
Клішэвіч Ігар Уладзіміравіч
Кніт Уладзімір Міхайлавіч
Кракоўны Яўген Аляксандр.
Краснасельскі Дзяніс
Красоўская Наталля Леанід.
Крэцкі Віталь
Кузьміна Дар'я Міхайлаўна
Кузьняцоў Канстанцін Канст.
Кулак Віктар Уладзіміравіч
Кулаковіч Уладзімір Уладзім.
Кульбака Аляксандр Пятровіч
Курачыцкі Андрэй
Курэпін Мікіта
Кусянкова Любоў Яўгенаўна
Кушчанка Карына Аляксандр.
Лавіцкі Мікалай Емельянавіч
Лакуцін Сяргей Дзмітрыевіч
Лапуць Ірына Сяргееўна
Лапцік Таццяна Яўгенаўна
Латушка Раман Андрэевіч
Леановіч Аляксандра
Леванцэвіч Лена Васільеўна
Лепушэнка Максім Алегавіч
Леўчанка Ганна Паўлаўна
Лісай Генадзь Станіслававіч
Літвіноўская Алеся Генадз.
Лічко Уладзімір Яўгенавіч
Лука Алена Вячаславаўна
Лукашэвіч Юры Аляксандр.
Лысая Наталля
Львова Ганна Леанідаўна
Ляхоцкая Алена
Ляшчоў Віктар
Максімовіч Кацярына
Малец Надзея
Малічэўскі Павел Віктаравіч
Мамантава Любоў
Манкус Артур Эдуардавіч
Манкус Канстанцін Віктаравіч
Манько Агата Антонаўна
Манько Алеся
Маразюк Анатоль Васільевіч
Марачкіна Ірына Леанідаўна
Марозава Наталля Анатол.
Марчук Дзмітры Іванавіч
Маслюкоў Тэльман Віктаравіч
Матвеева Ганна
Мацвеева Таццяна Віктараўна
Мацэльскі Міхась Альфрэд.
Мельнікава Ала
Міцкевіч Вольга Уладзімір.
Міцынская Валянціна Алякс.
Мішур Юльяна Дзмітрыеўна
Нагорная Аліна Аляксандр.
Несцяровіч Антаніна Андр.
Несцярук Аркадзь Вітальевіч
Падэнка Наталля Анатольеўна
Пазнухова Васіліса Міхайл.
Паклонская Людміла
Панкоў С.А.
Паплаўны Анатоль Уладзімір.
Папоў Ігар Селівёрставіч
Пархімчык Віктар Віктаравіч
Парэчына Зінаіда Паўлаўна
Пастухоў Міхал Іванавіч
Пашук Таццяна Дзмітрыеўна
Петрашэвіч Арцём
Плахатнюк Святлана Паўлаўна
Пракаповіч Георгі Дзмітрыевіч
Пушкіна Яніна Аляксандраўна
Пшанічны Юры Рыгоравіч
Пяткевіч Дзяніс
Пятроўская Лізавета
Рабецкая Таццяна Юр'еўна
Райчонак Ада Эльеўна
Раманчук Раіса Міхайлаўна
Рудакоў Алег Васільевіч
Русецкі Сяргей Васільевіч
Савельева Таццяна Анатол.
Савіч Валер Уладзіміравіч
Сакалоў Юры Аляксандравіч
Сакалоўская Вераніка Пятр.
Сакалуха Алесь Іванавіч
Саладкевіч Ганна Міхайлаўна
Сацута Іван Уладзіміравіч
Северцаў Мікалай Аляксанд.
Селуянава Ала
Сівук Кацярына
Сідараў Сяргей
Сільнова Людміла Данілаўна
Сіўковіч Валянціна Мікал.
Скакоўская Марыя Вітальеўна
Скідан Аляксандр Пятровіч
Снапкоўскі Сяргей Уладзімір.
Соркіна Іна Валер'еўна
Станіславенка Ганна Рыгор.
Статкевіч Андрэй Ігаравіч
Сташулёнак Іван Іванавіч
Стрыжак Андрэй Сяргеевіч
Стрэцкене Валянціна Канст.
Сугак Вадзім Канстанцінавіч
Сулецкая Ніна Андрэеўна
Сцяпук Валянціна Андрэеўна
Сыцько Кірыл Валер'евіч
Сяцко Таццяна Сяргееўна
Таболіч Алена Уладзіміраўна
Талпека Дзмітры Міхайлавіч
Тарарака Алена
Труноў Віктар Іванавіч
Тушынскі Дзяніс Міхайлавіч
Усціновіч Юры
Федуковіч Вольга Мікалаеўна
Фейгіна Сафія Георгіеўна
Філіпчанка Дзяніс Уладзімір.
Фінагенаў Антон Аляксандр.
Фурс Антон Віктаравіч
Фясенка Іван Іванавіч
Хаданёнак Марыя Іванаўна
Хадаровіч Ганна Уладзімір.
Хальманцэвіч Сяргей Анатол.
Хільмановіч Уладзімір Іван.
Хлапянюк Наталля Андрэеўна
Царук Юлія
Целеш Лявон Сцяпанавіч
Цехановіч Зміцер
Цімохіна Марыя Максімаўна
Ціханаў Максім Віктаравіч
Цярохін Уладзімір Станіслав.
Цярэшка Васіль Яўгенавіч
Чабатарэўская Тамара Мац.
Чаеўская Ала Канстанцінаўна
Чарняўская Святлана Сярг.
Чарняўскі Міхаіл Давыдавіч
Чарткоў Алег Алегавіч
Чырвонцава Вікторыя Мікіт
Чырэц Дзмітры Аркадзьевіч
Чэбатарэўская Тамара Мацв.
Шапялевіч Валянціна Рыгор.
Шаўра Юры Міхайлавіч
Шаўцоў Раман Ігаравіч
Шашкель Ніка Пятроўна
Шкобрава Вольга Піліпаўна
Шук Надзея
Шумчык Франц Станіслававіч
Шут Павел Васільевіч
Шчукін Міхаіл Уладзіміравіч
Шчыракова Ларыса
Шэвяка Аляксандр Пятровіч
Юржыц Святлана Леанідаўна
Юржыц Уладзімір Генадзьевіч
Яблонскі Зміцер Міхайлавіч
Якіменка Юлія Андрэеўна
Яловік Павел Ірэніюшавіч
Ярмоленка Васіль Сцяпанавіч
Яфімовіч Юлія Паўлаўна
Яцэнка Вольга



# Беларуска з "Песні пра зубра"

## Вянок памяці

Учора, у апошні дзень сакавіка, адляцела ў Вечны вырай светлая беларуская душа Наталлі Санько.

Ужо ў самім прыходзе Наталлі на свет мне бачыцца тое, што метафізічна паўплывала на лёс. Яна нарадзілася ў старажытнай украінскай Жоўкве з яе знакамітым замкам-рэзідэнцыяй вялікага князя і караля Яна Сабескага, пераможцы туркаў пад Венай. Адзначылася Жоўква і ў гісторыі айчыннай літаратуры. Якраз там, у друкарні манахаў-базыльянаў, у 1906-м эмігрантка з Расейскай імперыі ў аўстра-вугорскую Галіцыю Алаіза Пашкевіч, якую мы ведаем і любім як проста Цётку, выдала пад псеўданімам Гаўрыла з Полацка сваю кнігу "Скрыпка беларуская", а затым і "Хрэст на свабоду".



*Наталля ў традыцыйным строі (з калекцыі Міхася Раманюка) з дачушкай Ясяй. 1979 г. Фота Яўгена Куліка*

Жыццёвы шлях Наталлі, семдзясят гадоў таму таемна ахрышчанай святаром ужо скасаванай бальшавікамі Украінскай уніяцкай царквы, будзе звязаны і з гісторыяй, і з беларускай літаратурай.

Калі бацькі - вайсковец з Лепельшчыны Міхал і маці-настаўніца Вольга родам з Клічава - вярнуліся ў 1955-м на радзіму і асталяваліся ў Менску, малой сямігадовай Наталлі было няўцям, чаму ў Жоўкве ўсе гаварылі паўкраінску, а ў сталіцы Беларусі ніхто па-беларуску не размаўляе. Сумнае дзіцячае адкрыццё таксама адгукнецца ў лёсе - нязводным імкненнем бараніць сваё, спрадвечнае. Спрычынілася да гэтага і клічаўская бабуля па кудзелі Паліна, таленавітая спявачка і апавядальніца, якая на ўсцеху дзецям і ўнукам затрымалася на гэтым свеце больш, чым на стагоддзе.

Скончыўшы школу са срэбным медалём, Наталля стала студэнткай біялагічнага факультэта БДУ, а затым супрацоўніцай Беларускага навукова-даследчага інстытута гематалогіі і пераліванне крыві, дзе праславілася як эксперыментатарка і ўладальніца некалькіх патэнтаў на вынаходніцтвы. Аднак занятки навукай усё больш саступалі іншым зацікаўленням і клопатам.

Разам з мужам Змітром, цяпер вядомым кнігавыдаўцом і сапраўдным беларускім асветнікам, Наталля ўвайшла ў легендарную ўжо цяпер нонканфармісцкую суполку "На паддашку". Зянон Пазьняк, Міхась Чарняўскі, Лявон Баразна, Алесь Разанаў, Аляксей Марачкін, Віктар Маркавец, Міхась Раманюк... Сябры суполкі былі выдатнымі канспіратарамі: збіраліся на свае паседжанні ў мастацкай майстэрні Яўгена Куліка, што месцілася на паддашку дакладна насупроць будынка КДБ.

Там, на паддашку, нараджаліся і паспяхова ўрэчаісніваліся нацыянальна арыентаваныя культурніцка-асветныя праекты, што былі выклікам афіцыйнаму мастацтву сацрэалізму. Надыходзіў час і для палітычных акцый.

У 1976-м шырока прагучала наладжаная "паддашкаўцамі" мастацкая выстава да 100-годдзя Цёткі. Яшчэ большы розгалас атрымала ў 1980-м экспазіцыя да 500-годдзя Міколы Гусоўскага. Наталля брала ўдзел у арганізацыі абедзвюх гэтых выстаў. Улады ўжо не маглі ігнараваць уключаны ў сусветны каляндар ЮНЭСКА юбілей аўтара "Песні пра зубра" і далі дазвол на выданне знакамітай паэмы. У той кнізе з ілюстрацыямі Яўгена Куліка правобразам беларускі ў народным строі з дзіцем на руках, што знаходзіцца на адным з графічных аркушаў, стала Наталля Санько.



Яна разам з мужам ды іншымі аднадумцамі рыхтавала першае, нелегальнае выданне вядомай працы Міколы Ермаловіча "Па слядах аднаго міфу". Друкавальныя машынкі тады стаялі на ўліку ў спецслужбах, а для пакарання тых, хто адважваўся выпускаць у свет "крамольныя" тэксты, існаваў адпаведны артыкул Крымінальнага кодэксу, які пагражаў турэмным зняволеннем. Кніга Ермаловіча ўвайшла ў гісторыю беларускага самвыду і спрычынілася да навуковай дыскусіі пра ўтварэнне Вялікага Княства Літоўскага, а пазней афіцыйна перавыдавалася вялікімі накладамі. Тады ж Наталля, узброіўшыся нажніцамі, разразала на старонкі рулоны "пракручанага" на ратапрынце тэксту. Якая гэта доўгая ды нялёгкая праца, ведаю з уласнага досведу: памнажалі разам з сябрам Вінцэсем Мудровым кніжкі, прывезеныя ад Ларысы Геніюш з Зэльвы, у прыватнасці "Расейска-крыўскі (беларускі) слоўнік" Вацлава Ластоўскага.

Наталля адна з першых у беларускай кнігавыдавецкай справе асвоіла персанальны кампутар і стварыла макеты цэлай бібліятэкі кніг, сярод якіх такія папулярныя як "150 пытанняў і адказаў з гісторыі Беларусі", "Дзесяць бітваў" Міхася Чарняўскага, "Адкуль наш род" аўтара гэтых радкоў, "Дзесяць вякоў беларускай гісторыі" (яго ж у суаўтарстве з Генадзем Сагановічам). Шмат Наталлінай працы і ў падрыхтоўцы маіх "Краіны Беларусі" і "Вялікага Княства Літоўскага" (у суаўтарстве з мастаком Змітром Герасімовічам) і зусім нядаўняй "Айчыны" (з Паўлам Татарнікавым).

Некалькі гадоў Наталля Санько ахвярна сканавала, рэтушавала і рэстаўравала для факсімільнага выдання гадавыя камплекты "Нашай Нівы" - легенды нацыянальнага Адраджэння пачатку XX стагоддзя. Часам стан газетных нумароў быў такі, што даводзілася працаваць з кожнай літарай...

У Наталлі Санько засталіся дзеці - Яніна і Кастусь ды ўнучка Міхаліна.

Сёння мы развіталіся з Наталляй у менскім Чырвоным касцёле, а ля труны ляглі яе ўлюбёныя белыя і чырвоныя ружы.

*Уладзімір Арлоў.*

*Навіны Германіі*

# Немцы зацікаўлены ў пастаўках беларускай мэблі



Па выніках удзелу беларускай экспазіцыі ў найбуйной мэблевай выставе Imm Cologne ў Германіі дасягнуты шэраг дамоўленасцяў з вядучымі замежнымі мэблевымі кампаніямі пра пастаўку айчыннай прадукцыі не толькі на еўрапейскія, але і на далёкаўсходнія і азіяцкія рынкі, паведамілі БЕЛАПАН на УП "Белінтэрэкспа", якое выступіла арганізатарам калектыўнага стэнда Беларусі.

Упершыню адзіная калектыўная экспазіцыя вядучых прадпрыемстваў беларускай мэблевай і дрэваапрацоўчай прамысловасці была прадстаўлена на выставе Imm Cologne 14-20 студзеня. Сёлета больш 1.450 экспанентаў з 55 краін прынялі ўдзел у выставе плошчай 280 тыс. кв. м.

Так, ЗАТ "Маладзечнамэбля" дасягнула вуснай дамоўленасці з буйной гандлёва-вытворчай сеткай ОТТО пра пастаўку мяккай мэблі і пашырэнні асартыменту на рынках Германіі, азначыўшы перспектывы выйсця прадукцыі на рынак ЗША.

ААТ "ФАНДАК", супрацоўнічаючы з міжнароднай гандлёвай сеткай Jysk, нідэрландскай вытворча-гандлёвай групай кампаній IKEA і развіваючы партнёрскія адносіны з нямецкім OTTO Group, падчас працы экспазіцыі пашырыла геаграфію сваіх паставак і склала дамовы з кампаніямі з Польшчы, Даніі, Германіі, Італіі, Украіны на суму амаль 500 тыс. еўра на пастаўку мэблі і фанеры. "ФАНДАК" вядзе перамовы з бельгійскай кампаніяй, прадстаўнікі якой наведаюць прадпрыемства з дзелавым візітам у студзені.

Новыя дамовы з кампаніямі з Балгарыі, Украіны, Эстоніі, Расіі, Польшчы, Латвіі, Германіі, Саудаўскай Аравіі, Аўстрыі, Бразіліі, Мальты, Ізраіля, Румыніі, Літвы склала ААТ "Магілёўдрэў". ААТ "Гомельская мэблевая фабрыка "Прагрэс" склала дамову на пастаўку мэблі ў Літву, дасягнула дамоўленасці пра пастаўкі ў буйную гандлёвую сетку Латвіі і пра супрацоўніцтва з дзвюма нямецкімі кампаніямі, а таксама правяло паспяховыя перамовы з кампаніямі з Францыі і Італіі.

Больш, чым з 30 кампаніямі правяло перамовы і азначыла шляхі супрацоўніцтва СТАА "ЗОЎЛенЕЎРАМЭБЛЯ". З кампаніямі Польшчы, Германіі, Францыі, Нідэрландаў і Грэцыі мае намер развіваць супрацоўніцтва прадпрыемства ААТ "Івацэвічдрэў". Кампаніі з Польшчы, Германіі, Украіны, Швецыі, Румыніі, ААЭ выявілі зацікаўленасць у прадукцыі ААТ "Гомельдрэў".

Удзел экспазіцыі беларускай мэблевай і дрэваапрацоўчай прамысловасці праводзілася пад эгідай канцэрна "Беллеспаперпрам" і пры падтрымцы пасольства Беларусі ў Германіі, Асацыяцыі прадпрыемстваў мэблевай і дрэваапрацоўчай прамысловасці, Холдынгу арганізацый дрэваапрацоўчай прамысловасці BORWOOD і Беларускай гандлёва-прамысловай палаты.

На выставе прайшлі тэматычныя семінары і прэзентацыі патэнцыялу беларускай дрэваапрацоўкі для нямецкага і еўрапейскага бізнэсу. Па словах амбасадара Беларусі ў Германіі Дзяніса Сідарэнкі, "паказчыкі экспартнай прадукцыі ў Германіі растуць - толькі ў 2018 годзе экспарт вырас больш, чым на 40%. За 2017-2018 гады беларускі экспарт у Германію вырас больш, чым на 30%, аб'ём нямецкіх інвестыцый у беларускую эканоміку вырас больш чым у 2 разы".

- Дзякуючы мадэрнізацыі вядучых дрэваапрацоўчых прадпрыемстваў экспартны патэнцыял галіны істотна вырас. Беларускі павільён на мэблевай выставе ў Кёльне - навочнае таму пацверджанне. Досыць сказаць, што за 11 месяцаў 2018 года экспарт прадукцыі лясной і дрэваапрацоўчай прамысловасці Беларусі ў Германіі павялічыўся на 40% да 189 млн даляраў, - адзначыў амбасадар.

*БЕЛАПАН.*



№ 14 (1425) 3 КРАСАВІКА 2019 г. НАША СЛОВА

### *Да 156-годдзя паўстання 1863 г.*

## *Апалонія з Далеўскіх Серакоўская*

# Успаміны

*(Працяг. Пач. у папяр. нумарах.)*

Афіцэр Казакоўскі з аддзела кс. Мацкевіча апавядаў, што ў месцы, дзе аддзелы затрымаліся, некалькі дзён былі чутны выстралы пад Біржамі. Калі Казакоўскі налягаў на кс. Мацкевіча, каб спышыць з дапамогай, той адказваў: "Не маю на гэта выразнага загаду". (Паўтараю рэч чутую, але без веры ў праўдзівасць, бо праўда была б невыказна смутная.) Калі б кс. Мацкевіч марыў пра ролю ваяводы ў Ковенскай губерні, калі б зайздрасць да вялікага ўплыву, які аказваў Зыгмунт на люд, дыктавала тыя словы, то вялікая любоў да Бацькаўшчыны, святасць справы не дазволілі б яму на падобны ўчынак. Кс. Мацкевіч спазніўся!

Памылкова некаторыя гавораць, што Зыгмунт пасля шчаслівай бітвы пад Латвелямі пасунуўся глыбей у пушчу, каб знайсці выгаднае месца для апошняй бітвы. Ён яе не прагнуў, наадварот, рады быў пазбегнуць, каб магчы пасунуцца далей з мэтай яму вядомай. Дапускаў, аднак. магчымасць нападу і чакаў да паўдня. Калі ўжо абозы пачалі спускацца з лясістага ўзгорка, вораг распачаў бітву. Гавораць, што Даленга з усёй уласцівай яму прытомнасцю думкі пашыхтаваў свае войска да бітвы, якая з вялікай зацятасцю ішла ад паўдня да позняга вечара. Ніхто мне ніколі не распавядаў ходу ўсёй бітвы. Ведаю толькі, што Зыгмунт пасля ранення каля пятай па паўдні, будучы параненым яшчэ кіраваў бітвай, заахвочваў да бою, але калі з прычыны набліжаўшайся ночы непрыяцель адступіў - нашы падабралі сваіх параненых і зброю, кс. Мацкевіча ўсё не было. Зыгмунт пасля перадачы камандавання Ляскоўскаму, пасля развітання з войскам, адны кажуць, што быў адвезены, іншыя, што быў аднесены на руках верных з атачэння глыбей у пушчу ў фальварак Камароўскіх Скробішкі. Суправаджалі яго д-р Траскоўскі, ад'ютант Яраслаў Касакоўскі, камісар д-р Юзаф Касцялкоўскі і дзесяць верных, баявых з аддзела, у тым ліку ведаю, што быў д-р Сатурнін Якубоўскі. Двор былі пусты. На варце застаўся толькі стары слуга Сыруцяў, які, калі пасля нашага шлюбу паны стараліся ўшанаваць маладую пару абедам, прасіў, каб яму ў довад заслуг дазволілі стаяць за крэслам Зыгмунта і прыслужваць яму. У Скробішках таксама адзін стары слуга прыняў параненага камандуючага.

Пасля перавязкі раны Зыгмунт застаўся адзін. Не заснуў пасля знямогі, пакуты і болю - піша - запўняе алоўкам маленькую кніжачку. Было гэта апісанне ўсёй дзейнасці Даленгі на Літве, апісанне і прычыны біржанскай паразы, уласныя меркаванні пра паўстанне і ўсю дзейнасць на Літве. Сардэчныя словы развітання для Краю з нязломнай верай у лепшую будучыню.

Паводле апавяданняў Гейштара кніжачка была пакладзена ў архіў, забраная адтуль па заданні Малахоўскага і Гейштара, аддадзена на захаванне пані Уласевіч, у хвілю нейкага перапалоху была кінута ёю ў агонь.

Шкада, што Гейштар не хацеў ці не мог дэтльна паўтарыць змест яе, а абмежаваўся толькі абагульненнямі, дадаючы для тых, хто яго ведаў, што чытаючы кніжачку здавалася, што чуе, як ён (Зыгмунт) гаворыць[340].

На раніцу агледзелі паўторна рану, моцная гарачка яшчэ ўзмацнілася, у канцы Зыгмунт заснуў сном цяжкім, гарачкавым.

Недалёка ад Скробішак Юзаф Касцялкоўскі меў прыроднага брата Ідэльфонса Касцялкоўскага, да яго тры разы пасылалі паўстанцаў, якія суправаджалі Зыгмунта па воз і каня, на іх доўгія ўгаворы жонка Ідэльфонса адказала рэзкай адмовай. У канцы падаўся сам Юзаф, забраў воз і каня сілай. У палове восьмай прыбыў воз. Распавядаў Яраслаў Касакоўскі, калі ўвайшоў ў пакой, застаў Зыгмунта спячым, у гарачцы, праняты літасцю чакаў, пакуль сам прачнецца. Так сплыло паўгадзіны. Прачнуўся, але ў той час, калі маскалі акружылі двор[341].

Паўстанцы крычалі: "Здрада, здрада!"

Пасля таго, як Юзаф забраў воз, Ільдэфонсіха падалася да спраўніка Сясіцкага, дзе ў той час знаходзіўся Ганецкі (паводле апісання жонкі Сясіцкага), якраз у хвілю яе прыбыцця піў каву на ганку. Нягледзячы на прысутнасць генерала Ільдэфонсіха голасна прасіла спраўніка, каб яе не прыцягвалі да адказнасці за ўзяты воз і коней для параненага Даленгі, які цяпер знаходзіцца ў Камароўскіх у Скробішках. Ганецкі адышоў, каб распарадзіцца пра неадкладны арышт Даленгі.

Не буду падаваць далейшых дэталяў, бо так розныя і спрэчныя паміж сабой, што толькі затрымацца магу на адной, што Зыгмунт у хвілю арышту быў у моцнай гарачцы. У размовы і дыспуты з расейскімі афіцэрамі ўдавацца не мог.

Апавядаў мне Доніч пасля вяртання з Сібіры, таварыш Калышкі ў хвілю арышту апошняга:

- Пасля бітвы, пасля ўдалення Зыгмунта ў Скробішкі, пасля збору раскіданых аддзелаў першыя словы Калышкі былі: "Дзе камандуючы? Хто яго суправаджае?" Пачуўшы адказ выгукнуў: "Маруды пагубяць яго - за мной дзесяць з майго аддзела! Спяшайма яму на дапамогу! Да бяспечнага месца толькі шэсць гадзін дарогі, перанясём яго лясамі на руках!" Набліжаючыся да Скробішак зайшоў па больш дакладную інфармацыю ў прыдарожную хату. У той жа момант ускочыла гаспадыня з крыкам: "Уцякайце! Маскалі ідуць!" Некалькі суправаджаўшых Калышку выскачыла цераз акно ў бок лесу, калі ён збіраўся зрабіць тое ж самае, пачуў ужо каля хаты словы салдата: "Теперь, когда Доленга пойман" [341]. Калышка ўпаў на лаву са словамі; "Не маю ўжо для чаго ўцякаць - усё страчана - камандуючы ўзяты". Салдаты ўвараліся. На пытанне, кім ёсць, адказаў: "Калышка, якога ад даўна шукаеце".

10 траўня Даленга, Калышка і грамадка вязняў, якая яго суправаджала, былі перавезены ў Вільню.

Абодва загінулі аднолькавай смерцю: Калышка 10/29 чэрвеня[343], Даленга 15/27 чэрвеня 1863 года. Цела Зыгмунта ў прысутнасці каменданта Вяткіна і доктара Фавеліна знялі ноччу і пахавалі пад Замкавай гарой[344].

Жыхары горада рабілі тысячы праектаў выкрадання Зыгмунта са шпіталя. Адны з іх былі немажлівыя з-за стану яго здароўя; на іншыя не хацеў пагадзіцца, бо пацягнулі б за сабой вялікія ахвяры. Віленская моладзь хацела напасці на шпіталь, захапіць параненага, пакласці яго ў човен, дзе б яго ўжо чакалі і Віліяй вывезці ў бок Закруту[345], а адтуль у лагер у Троцкім павеце. Зыгмунт не згадзіўся, бо было б гэта прыгаворам для моладзі на вынішчэнне, а для горада на дзікую помсту Мураўёва.



***Залаты пярсцёнак Зыгмунта Серакоўскага, знойдзены падчас раскопак на Замкавай гары ў Вільні***

Зыгмунт у адным са сваіх апошніх лістоў з вязніцы піша: *"Стоячы пад шыбеніцай буду яшчэ пратэставаць супраць варварскага бяспраўя ўраду адносна маёй Айчыны".*

Паўстанцы звярталіся ў Аддзел з запытам, ці была б мне палёгкай кара, адмераная Ільдэфонсісе праз спаленне яе двара і павешанне яе самой? Адказала, што смерць ці жыццё такой нікчэмнай істоты не можа параўнацца з жыццём і смерцю Серакоўскага. Няхай жыве - няхай згрызоты сумлення будуць карай, а дзецi, калі іх мае, можа пакрыюць цнотамі сваімі крыўды ўчыненыя Краю.

1) (Абвяржэнне памылкова пададзенага апісання Цылевым і аўтарам "Гісторыі двух гадоў".) Калышка пасля арышту быў адпраўлены ў Мядэйкі, а не ў Скробішкі, туды таксама і Зыгмунт быў спачатку са Скробішак адвезены. Усе, г.зн. Зыгмунт, Калышка і 20 маладых паўстанцаў, якія іх суправаджалі, а таксама Траскоўскі, Касцялкоўскі і Касакоўскі былі пад моцнай вартай з жандармскім палкоўнікам Собіным экспрэсам прывезены ў Вільню ў незвычайна ранні час - перавезены ціха вакольнай дарогай у шпітталь 10/29 красавіка. Ганецкі прыбыў 12-га звычайным цягнікам, увайшоў праз Вострую Браму без польскіх штандараў, з музыкай. але вуліцы былі пустыя, вязняў усяго быў каля сарака, пераважна параненых.

2) Абманам ёсць апісанне аўтара "Гісторыі двух гадоў" Зыгмунта перад выездам у Коўню, быццам бы хадзіўшага і аддаўшага візіты ўрадавым фігурам у цывільным строі. Вайскоўцам можна было толькі за мяжой насіць цывільную вопратку, калі б яго так убачылі ў Вільні, з пэўнасцю арыштавалі б, прынялі б за азнаку пакідання вайсковай службы, таму, як бы мог аддаваць візіты, гуляць у більярд з Назімавым, наведваць абеды і г.д.? Як жа шмат, амаль усё, што адносіцца да Літвы ёсць абманам у той справе.

Мураўёў неўзабаве пасля свайго прыбыцця на Літву выдаў камюніке[346]: *"Калі паўстанцкая партыя пакажацца на адлегласці 3 вёрст ад двара, маёнтак будзе падлеглы секвестру за ўдзел у паўстанні - канфіскацыі. Вёска ў першы раз праціць штраф, у другі раз раўняецца з зямлёй".*

З прыбыццём Мураўёва следчая Камісія распачыная сваю дзейнасць. Праславілася ў ёй фальшам, падступствам, абманам, прыдумваннем цэлых доўгіх прызнанняў, паклёпамі на людзей, найбольш шанаваных Краем, як: апошнія хвілі Зыгмунта, цалаванне Агрызкам рук па локці старшыні, каб яму аціліў жыццё; Калышка, які ўскладае віну за свае зняволенне на Зыгмунта і выракаецца яго; кс. Мацкевіч, які выказвае на Камісіі сваю нянавісць да польскай шляхты, на згубу якой бунтуе мужыкоў; Авейда, які здраджвае арганізацыю для ацалення жыцця. (J. Гогель[347] сфальшаваў прызнанне Касоўскага на Агрызку і наадварот, пасля чаго на патрабаванне неабходнасці вочнай стаўкі не зрабіў яе, бо выйшаў бы на яву ўвесь нікчэмны абман.) Жандарм Лосеў мабыць першы і апошні раз у жыцці сказаў праўду, калі яму нехта з вязняў вымаўляў крыўды за фальш:

- Што ж вы, панове палякі, думаеце пра нас, што мы ў вачах вашага грамадства падымаць і ўшляхетніваць вас захочам? Не, панове, заданнем нашым ёсць не толькі выдабыць з вас прызнанне, але яшчэ выпусціць вас з рук нашых такімі чорнымі, каб вашыя маці вас не пазналі.

Акрамя Лосева яшчэ нікчэмнейшымі былі Гогель, Ратч, Юган, Віселіцкі, Цылаў, Шамшаў і шмат іншых да іх падобных, якія добра пасавалі да Мураўёва.

Вікары Ішора - іхняя першая ахвяра. Пасля прачытання маніфесту пайшоў з партыяй. На вестку пра зняволенне пробашча вярнуўся і здаўся ў рукі ўладаў. Павешаны.

41) Літ[оўскі] аддзел выдаў адозву, якая заклікала да вытрымкі ў выкананні абавязкаў у інтарэсах краю і не падаць духам з-за той нявіннай ахвяры. Адозва з'явілася ў дзень экзекуцыі на мурах горада. Гэта падказала Мураўёву, што ёсць Аддзел Нац[ыянальнага] Ур[аду] і друкарня.

Праходзяць экзекуцыі кс. Зямацкага - 75-гадовага старога[348], Лясковіча, Ляснеўскага і шмат іншых.

Прыходзіць з Варшавы інструкцыя[349] ў палове чэрвеня перад зняволеннем Кіраўнічага аддзела:

1) Замест вышэй названага - Выканаўчы аддзел. Старшыня і 4 чальцы для чатырох секцый, а таксама камісар з Варшавы з асобнай пячаткай і правам прызначэння ваяводскіх і павятовых камісараў без ведама Аддзела.

2) Прызначаецца значны пенсіён для ўсіх чыноўнікаў (дагэтуль чыноўнікі на краёвай службе не атрымоўвалі ніякай аплаты).

Гэтыя пастаянныя змены мучылі наш Край і тармазілі ўсялякую працу, пераконвалі пры тым, што Край знаходзіцца ў руках людзей, якія не маюць разумення пра яго стасункі і інтарэсы.

*(Працяг у наст. нумары.)*

---

[340] Серакоўская звяртаецца да запісак Якуба Гейштара "Pamietniki Jakuba Geysztora z lat 1857-1865, t. 1-2, Вільня, 1913 (тут да ст. 57 у т. 2).

[341] На левых палях алоўкам вертыкальна ўпісана: "Згаданы д-р Сатурнін Якубоўскі быў цяжка паранены ў бітве пад Біржамі (Мядэйкамі), не мог таму апекавацца камандуючым. Ляжаў не на двары, а ў хаце лесніка ці мужыка і адтуль узяты маскалямі, яго везлі разам з Серакоўскім у Вільню, у адным з ім купэ вагона. Раздзялілі іх у шпіталі; Серакоўскі ляжаў асобна, моцна пільнаваны. а Якубоўскі - у агульнай зале.

[342] Цяпер, калі Даленгу злавілі.

[343] Прыгавор над Калышкам выкананы 28.V/9.VI.1863 г.

[344] Цела знойдзена ў ліпені 2017 года падчас археалагічных раскопак. Пры ім знойдзены медалік, а на правай руцэ — залаты пярсцёнак з надпісам з унутранага боку: «Zygmont Apoloniya 11 Sierpnia / 30 Lipca 1862 r.».

[345] Закрут - прадмесце Вільні, сёння квартал.

[346] Інструкцыя ад 24 траўня 1863 г.

[347] Гаворка пра Мікалая Гогеля.

[348] Кс Р. Зямацкі меў у той час 52 гады.

[349] Дэкрэтам ад 10.V1863 г. Нацыянальны ўрад у Варшае перайменаваў правінцыяльныя аддзелы у аддзелы выканаўчыя, што рабіла іх моцна залежнымі ад вярхоўнай улады ў Варшаве.





*Леанід Лаўрэш*

# Тодар Нарбут у падзеях 1812 года

Усе біёграфы Тодара Нарбута паведамляюць дзве версіі абставін жыцця гісторыка ў 1812 г. Па адной з іх, ён ціхамірна жыў у сваіх родных Шаўрах і займаўся гісторыяй нашага краю. Па другой версіі, 1812 г. для Нарбута быў напоўнены падзеямі і неверагоднымі ваеннымі прыгодамі .

Польскі біяграфічны слоўнік коратка піша пра другую версію падзей 1812 г., як пра магчымую, і грунтуе толькі на кнізе Зоф'і Кавалеўскай "Дзеі паўстання Лідскага..." . Зоф'я Кавалеўская з Лянтоўскіх (1853-1918) нарадзілася ў в. Малыя Бакшты сучаснага Маладзечанскага раёна і ўсё жыццё займалася фалькларыстыкай і этнаграфіяй, даследавала паўстанне 1863 г., з'яўлялася аўтаркай шэрагу кніг і артыкулаў.

Зараз, я рэдагую беларускі пераклад кнігі Зоф'і Кавалеўскай пра паўстанне на Лідчыне і думаю, што мае сэнс упершыню падрабязна пераказаць прыгоды Тодара Нарбута, як іх падае аўтарка. Трэба заўважыць, што тэкст Кавалеўскай грунтуецца на яшчэ жывой памяці жыхароў Лідчыны пра падзеі 1863 г. і на асабістых кантактах і размовах з дачкой гісторыка Тадорай Манчунскай і яго сынам Баляславам Нарбутам. Яе кніга друкавалася як серыя артыкулаў пра паўстанне на Лідчыне ў газеце "Дзённік Віленскі" і пры перавыданні кнігай тэксту адчувальна не хапала добрай рэдактуры.

Тэкст Кавалеўскай мае шэраг дробязных недакладнасцяў якія, у цэлым не псуюць вялікую каштоўнасць усёй кнігі, бо сур'ёзных, сутнасных памылак праца не мае, і я схільны лічыць ніжэй прыведзеныя факты біяграфіі Нарбута вельмі верагоднымі.

Зоф'я Кавалеўская піша, што Тодар Нарбут, як і ўся наша шляхта чакаў прыходу французаў як збаўлення ад чужой улады. Свае надзеі і пачуцці ён выказваў ва ўзнёслых вершах. У адным з тых тагачасных твораў ён апавядае пра сустрэчу на Замкавай гары ў Вільні з духам Лідзейкі. Першае, што робіць дух, прыняўшы вобраз арцыкаплана ў такі важны для Літвы момант, - знімае з галавы Тодара ненавісны трохкутны капялюш рускага войска. Гэты паэтычны твор доўгі час захоўваўся ў сям'і і загінуў падчас падзей 1863 года.

Тым не менш у 1812 г. Тодар Нарбут знаходзіцца ў складзе рускага штаба ў Вільні, куды перад самым пачаткам вайны прыехаў цар Аляксандр I. Калі Напалеон перайшоў Нёман, рускі штабны афіцэр аўстрыйскага паходжання Морыц Кацэбу (потым стане генерал-лейтэнантам) паведаміў ваеннаму інжынеру Нарбуту пра тое, што маецца загад заўтра, на раніцы, пакінуць старажытную



сталіцу Літвы.

- Што думаеш рабіць? - запытаў Кацэбу.

- Схавацца і застацца тут, - шчыра адказаў Нарбут. - Можа сваім на што-небудзь прыдамся.

Калі рускія войскі пакідалі горад, усе дзверы дамоў былі зачынены, а вокны завешаны - горад як быццам вымер. Нарбут схаваўся ў знаёмага купца, і падчас хаосу адступлення яго адсутнасць пры штабе не была заўважана. З першым промнем узыходзячага сонца ў Вільню ўвайшоў французскі авангард начале з аддзелам уланаў князя Радзівіла. Горад умомант абудзіўся ад сну, адчыняліся дзверы, вокны і людскія сэрцы. Месцічаў ахапіў шалёны энтузіязм. Жанчыны кідаліся да коней, гладзілі і нават цалавалі іх.

Падхоплены на вуліцах людскімі натоўпамі, Нарбут выпадкова патрапіў у нейкую невялічкую крамку, дзе зусім змучаны затрымаўся на хвілінку. На стале ў краме ляжалі пашарпаныя старыя лісткі, і аматар гісторыі, як быццам пазнаў рэшткі "Дыярыюша крыжацкіх дарог на Літве". Думаю, што менавіта ў гэтым месцы, Кавалеўская фантазіравала, ці памыляліся дзеці Тодара Нарбута, пераказваючы ёй гэтую гісторыю з "Дыярыюшам...". Тым не менш, даследчыца паведамляе, што Нарбут паспеў нават нешта занатаваць са старога дакумента.

Выйшаўшы з крамкі, гісторык пабег да Зялёнага моста - менавіта там усе чакалі пабачыць Напалеона. Імператар сядзеў на вялікіх бэльках і наглядаў за работай сапёраў якія будавалі мост цераз Вілію - стары мост, пакідаючы горад, спалілі расейцы. За ракой, падпаленае казакамі, гарэла прадмесце разам са складамі збожжа. Каля Напалеона, аточанага цесным колам маршалаў і ад'ютантаў, стаяў тутэйшы настаяцель айцоў-піяраў ксёндз Гладоўскі. Нарбут звярнуўся да ксяндза па дапамогу і расказаў яму, што хоча працаваць перакладчыкам, бо ведае дзевяць еўрапейскіх моваў. Напалеон на хвіліну павярнуў галаву ... Сталёвыя вочы ўважліва агледзелі постаць Нарбута, імператар загадаў прыняць яго ў канцылярыю міністра Басано і болей не звяртаў увагі на просьбіта. Нарбут атрымаў абмундзіраванне і грашовае забеспячэнне - дзесяць франкаў у дзень, сівую кабылу для раз'ездаў і грошы на яе ўтрыманне. А большага ён і не жадаў.

Работы мелася шмат. Герцаг Басано павінен быў ажыццяўляць знешні нагляд за дзейнасцю новага ўрада аднаўленага ВКЛ і адначасова кіраваць замежнымі справамі Францыі. Як намеснік імператара, ён змагаўся з непаваротлівасцю і спрэчкамі паміж французскім камандаваннем і літоўскім урадам. Канцылярыя Басано атрымоўвала палітычная і дыпламатычныя паперы рознай важнасці, прыходзілі прыватныя петыцыі, ішла прыватная карэспандэнцыя. Усё гэта патрэбна было прачытаць, зарэгістраваць у кнізе і перакласці. Герцаг Басано ўвесь час, часта нават уначы, меў пытанні і даручэнні, і паколькі Нарбут быў глухі, дык даваў яму пісьмовыя загады. Часта Нарбута пасылалі з важнымі заданнямі, якія ён сумленна выконваў і таму здабыў давер князя і павагу калег.

Але хутка адбылася катастрофа - французскія войскі пачалі адступаць. Нарбут не пакідаў Вільні і з вялікім непакоем назіраў за тым, як з галоўнага імператарскага штаба наплываюць туманныя загады і няясныя рапарты. Злавесныя весткі ішлі ў Вільню з хуткасцю тэлеграфа, якога ў той час яшчэ не было. У канцылярыі герцага Басано нарастаў хаос. Напалеон таемна прамчаўся праз Вільню і накіраваўся ў Парыж. За Напалеонам спешна рушыў увесь штаб. Ваенная эпапея заканчвалася.

Разам з канцылярыяй Басано, пацягнуўся за Нёман на сваёй Сіўцы і Нарбут. Але ўжо каля Аўгустова ён зразумеў, што не можа бадзяцца недзе на чужыне і вырашыў застацца на Радзіме. Павярнуў Сіўку і паехаў да свайго сваяка Прота Нарбута, які жыў тут недалёка. Прот - сын вядомага прыгажуна Нарбута, які быў аздобай салона на "чацвярговых абедах" караля Станіслава Панятоўскага.

Спадар Прот і яго дачка Клемянціна прынялі Тодара са стараліцвінскай гасціннасцю, і гісторык змог адпачыць тут ад пераджытага. Час бавілі за гутаркамі пры каміне. Клямуся, займаючыся вышыўкай, уважліва слухала сваяка і выходзіла толькі, каб у стайні папесціць нарбутаву Сіўку.

Тым часам рускія войскі шукалі дэзерціраў. Чуйнае вушка Клямусі з непакоем прыслухоўвалася да ўсіх чутак. І аднойчы яна прыбегла з весткай пра набліжэнне казакаў. Сіўка стаяла каля ганка пад сядлом, але казакі ўжо ўязджалі праз браму. Вершнік адным скокам пераадолеў плот і паскакаў да лесу. За ім пагналіся казакі - яны сыпанулі ўздагон градам куль. Некалькі куль патрапіла ў Сіўку, і яна звалілася каля зарослага густым чаротам возера. Тодар схаваўся і перасядзеў тут да ночы, але кулі яшчэ доўга свісталі над чаротам.

Калі ўсё сціхла і начны змрок ахінуў зямлю. Нарбут выйшаў са схованкі і асцярожна скіраваўся да бліжэйшай плябаніі. Ксёндз-пробашч сам адчыніў яму дзверы і правёў унутр. Потым пераапрануў Тодара парабкам і пасадзіўшы як вазніцу на вазок, загадаў, як быццам везці ксяндза да хворага. Праз некаторы час яны сталі перад леснічоўкай. Ксёндз паставіў Святы Сакрамэнт на стол, паклікаў усю сям'ю лесніка і загадаў ім прысягнуць, што яны не здрадзяць таму, каго ён прывёз, не выдадуць расейцам, але схаваюць і зберагуць яго ў сябе. Прысягнулі ўсе.

У лясной глушы сярод сумленных людзей Нарбут адчуваў сябе ў бяспецы. Было дамоўлена, што калі Тэадор пойдзе кудысьці з хаты, а ў яе прыйдзе нехта чужы, дык на знак небяспекі будуць вывешаны белыя хусткі. Кавалеўская піша, што менавіта тут, у лясной цішы, Тодар Нарбут і задумаў напісаць свае будучыя тэксты і пачаў збіраць стараліцвінскія легенды і паданні.

Час ад часу леснічоўку наведваў спадар Прот Нарбут, а яго дачка выкупіла ў казакаў шкуру Сіўкі і загадала пашыць з яе доўгі дарожны куфэрак, у якім гістарыёграф Літвы потым усё жыццё захоўваў свой французскі мундзір, лісты герцага Басано, загады Напалеона і іншыя сувеніры тых часоў.

У наступным годзе цар Аляксандр І абвясціў амністыю для ўсіх удзельнікаў ваеннай драмы. Нарбут звярнуўся па ласку манарха і атрымаў звальненне са службы і пагашаную за ўвесь час адсутнасці на службе грашовую запазычанасць.

Менавіта згадка пра гэтыя грошы, атрыманыя за тыя два гады, калі Нарбут служыў Напалеону ці хаваўся ад рускіх, дадае веры ва ўсю гэтую гісторыю, робіць яе сапраўднай і жыццёвай. Гэтага не прыдумаеш, а калі захочаш напісаць гісторыю пра "сапраўднага героя", дык не будзеш узгадваць, што ён узяў грошы ў ворага за той час, калі служыў супраць яго. Тут усё па-нашаму - "б'юць - бяжы, даюць - бяры".

Пасля амністыі Нарбут вярнуўся ў Шаўры і пачаў пісаць. А калі падраслі дзеці, гісторык з-пад страхі часам выцягваўся куфар са шкуры сваёй Сіўкі, у якім стары прыхільнік Напалеона хаваў памятныя рэчы тых часоў, паважна выцягваў іх і ўзрушана раскладваў вакол сябе. Дзеці з вялікім хваляваннем пачціва маўчалі і слухалі бацьку, а потым нават падносілі да вуснаў яго скарбы. Найбольш хваляваў Тодара стары мундзір, сукно на ім паблякла, але ўсё яшчэ бліскучыя эпалеты будзілі прывіды 1812 года - часоў яго маладосці і надзеі.

"Старога прыяцеля", як называў ён свой мундзір, гісторык нават ушанаваў вершам, які пачынаўся гэтак:

*Калі я ўсё страціў*
*падчас краёвых бур,*
*Ты адзін са мной застаўся,*
*мой стары мундур!*
*Ты бліскаў на мне ў часы,*
*калі Край быў у патрэбе,*
*Я ж рызыкоўна падстаўляў*
*пад ўдары сябе і цябе.*
*Зніклі мае прыгожыя дні,*
*як дым у начных ценях*
*Але той яшчэ шчаслівы,*
*хто мае ўспаміны.*

„Kiedy wszystko straciłem przez krajowe burze.
Tyś mi jeden pozostał, mój stary mundurze!
Błyszczałeś na mnie wówczas, gdy w kraju potrzebie
Naraża'em na ciosy i siebie i ciebie.
Żnikły piękne dni nasze, jak dym w nocnych cieniach
Lecz ten jeszcze szczęśliwy, kto żyje w wspomnieniach".

Тодар Нарбут жыў гэтымі ўспамінамі і мацаваўся імі да позняй старасці, пры гэтым часта паўтараў: "О, лёс! Хто меў цябе ў нашым краі…"

Такога кшталту расказы Зоф'я Кавалеўская магла пачуць ад дзяцей Тодара Нарбута, і дадатковую веру ў верагоднасць усіх гэтых прыгод у 1812 г. дадае аўтэнтычны верш Тодара пра мундзір.

Трэба дадаць, што пасля паўстання 1831 г., "адстаўны капітан-інжынер" Тодар Нарбут абвінавачваўся рускімі ўладамі ў тым, што падчас побыту Хлапоўскага ў Лідскім павеце напісаў "пасквіль супраць Расеі". Вядома гэтак жа, што пазней, перад планаваным штурмам Вільні Нарбут чарціў карты горада для генерала Гелгуда, таксама засталіся ўспаміны паўстанцаў пра тое, што адстаўны капітан Нарбут арганізаваў ліццё гармат у Варнях.

А ў паўстанні 1863 г. прынялі ўдзел і абессмяроцілі свае імёны дзеці Тодара Нарбута.

# Ніна Рыбік - журналіст з паэтычным ухілам

Нядаўна ў ДУК "Ашмянская раённая бібліятэка" было шматлюдна. Клуб "Сустрэча" запрасіў усіх ахвотных на чарговае пасяджэнне "Родны край, я цябе апяваю", падчас якога адбылося знаёмства з астравецкай пісьменніцай Нінай Рыбік.

На сустрэчу з паэткай прыйшлі чытачы розных узроставых катэгорый, занятых у розных сферах дзейнасці, аб'яднаныя агульным інтарэсам - цікавасцю да прыгожага слова.

дачы нашай краіны, але яе прэзентавалі ў Санкт-Пецярбургу. Удзельнікі вечарыны маглі паслухаць урывак з казкі і некалькі вершаў.

Святлана Галінская, вядучая пасяджэння, расказала аб узнагародах, дыпломах і граматах, якіх удастоена за сваю працу наша госця. Яна Лаўрэат міжнародных і рэспубліканскіх літаратурных прэмій, пераможца рэспубліканскага конкурсу "Жанчына года - 2017", Чалавек года Гарадзеншчыны. Ні-



*Ніна Рыбік распавядае пра свае творы*




*Сустрэча з сябрамі клуба*

Ніна Аляксееўна Рыбік - сябра Саюза пісьменнікаў Беларусі і Беларускага саюза журналістаў. Амаль усе творы Ніны Аляксееўны прысвечаны цудоўнаму і непаўторнаму Хойніцкаму краю, што на Гомельшчыне. Яна аўтар кніг прозы "Свае і чужыя", "Права на адсяленне", "Скрыжаванні", яе творы ўвайшлі ў калектыўны зборнік "Астравецкай зямлі галасы", друкаваліся ў газеце "Ашмянскі веснік". Ёсць у пісьменніцы некалькі вершаў, і нават казак для дарослых. Паспрабавала сябе Ніна Рыбік і ў якасці драматурга і нават актрысы. Пастаноўку "Калядны вечар" мелі магчымасць убачыць не толькі гле-

на Аляксееўна шчыра і пранікнёна расказвала пра сябе, пра свой край і родную вёску Уласы, што на Гомельшчыне, пра сваю працу галоўным рэдактарам газеты "Астравецкая праўда".

На завяршэнні сустрэчы слухачы выказалі шматлікія словы ўдзячнасці, уручылі кветкі, сувеніры. Ніна Аляксееўна падарыла бібліятэцы некалькі сваіх выданняў.

***Святлана Галінская**, загадчык аддзела абслугоўвання і інфармацыі ДУК "Ашмянская раённая бібліятэка".*

# Фрэска з Грунвальдскай бітвай з'явілася ў нядзельнай школе гарадзенскага праваслаўнага сабора

На роспісе паказаная перамога воінаў Вялікага Княства Літоўскага над Тэўтонскім ордэнам пад Грунвальдам. Славутую бітву і праваслаўную царкву лучыць асоба князя Фёдара Астрожскага і поле перад Каложай.

Фрэска на ўсю сцяну, памерам прыкладна 2 на 6 метраў, з'явілася ў адной з аўдыторый нядзельнай праваслаўнай школкі каля Свята-Пакроўскага сабора. На ёй відаць князь Вітаўт, кароль Ягайла, князь Фёдар Астрожскі, вялікі магістр Ульрых фон Юнгінген. Над творам каля двух месяцаў працаваў мастак Аляксандр Рыбін.



Ідэю настаяцель Свята-Пакроўскага сабора айцец Георгі Рой прывёз з літоўскай Клайпеды. Там у свайго сябра-святара ён убачыў падобны твор. Найбольш яго ўразіў вобраз князя Фёдара Астрожскага, які змагаўся з нямецкімі рыцарамі ў Грунвальдскай бітве, а пасля стаў манахам і ўшаноўваецца праваслаўнымі як святы.

У той момант, як прызнаецца айцец Георгі Рой, да яго прыйшло асэнсаванне, наколькі важнай была гэтая бітва для Беларусі і Гародні.

- Гэтая вайна доўжылася амаль паўтара стагоддзя. Безліч разоў крыжакі прыходзілі ў Гародню, штурмавалі гарадзенскі замак, спальвалі нашыя вёскі, рабавалі нашую зямлю. Грунвальдская бітва паставіла кропку. Гэта была перамога, - адзначае ён.



*Кароль Ягайла прымае выклік ад нямецкіх рыцараў*

Святар адзначае, што гэта гісторыя, якую мы можам асэнсаваць не толькі з грамадзянскага, але і з рэлігійнага пункту гледжання.

- За перамогу пад Грунвальдам дзякавалі Богу нашыя продкі, а таксама можам дзякаваць мы, бо нашая зямля засталася нашай зямлёй.

Харугвы Вялікага Княства Літоўскага, якія ішлі на Грунвальд, збіраліся ў Гародні, менавіта на полі каля Каложы. Там святары іх дабраслаўлялі.

Пад фрэскай выяўлены гербы Гарадзенскай епархіі з каложскім крыжам, герб "Пагоня" і герб Гародні з аленем святога Губерта

У адрозненне ад літоўскага твора, на гарадзенскім мастак дадаў крыж святой Ефрасінні Полацкай

На думку айца Георгія, такую фрэску добра выкарыстоўваць для гістарычнага, патрыятычнага выхавання дзяцей і моладзі. Вучні нядзельнай школы ўжо актыўна разглядаюць твор, цікавяцца, хто на ім паказаны.

***Радыё Свабода.***

*Не ад Эзопа, а ад Язэпа*

# Выказванні

Мужчыну марнуюць алкаголь і жанчыны, а яшчэ больш іх празмернае ўжыванне.

Села на грашовую дыету.

Паважаць сябе прымушаюць хвароба, надвор'е і кабета.

Лепш пляшка пры жыццi, чым вянок па смерці.

Вазьміце з мяне, калі ласка, дзякуй.

Будзьце ветлівы, ашукайце мяне

Трапіў у сабачую шкуру, куды дзенешся - як ні кажы, начальнік.

Нашыя жанчыны не заўжды знаходзяць нас, як і мы іх.

Прыперла справа, як чорт грэшную душу.

Напіцца да свінячага віску.

Калі старэйшыя сабакі гаўкаюць, меншыя на хвасце сядзяць.

Здаецца стары чалавек, а дзіцё дзіцём.

Мужчына той, у каго ёсць грошы. Усе астанія - самцы.

Прэзідэнт змагаецца з бюракратыяй, як алкаголік з гарэлкаю.

Выраб і збыт самагонкі ды "самапальнай" гарэлкі поўнасцю пад кантролем міліцыі.

Не можа плаваць - значыць вадалаз.

Не крадзі, вазьмі сумленна, што кепска ляжыць, бо ўсяроўна прападзе.

Сярод ваўкоў жыў, але гаўкаў па-сабачы.

Дармаед з самага дзяцінства.

Не фартова казаць купіў, шыкова - дастаў.

Разумныя думкі студэнты раней пісалі на лаўках, падваконнях, дзвярах і сценах туалетаў, зараз тое самае можна пачытаць ў інтэрнэце.

***Язэп ПАЛУБЯТКА.***

*Рэдактар Станіслаў Вацлававіч Суднік*

***Заснавальнік:*** ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі*** № 908 ад 18 снежня 2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
***Адрас рэдакцыі:*** 231293, Лідскі р-н, в. Даліна.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:*** 231282, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** naszaslowa@tut.by

***Рэдакцыйная калегія:***
Алена Анісім, Юрась Бабіч, Юля Бажок, Марыя Баравік, Аляксей Карпенка, Эла Оліна, Ігар Пракаповіч, Аляксей Пяткевіч, Станіслаў Суднік, Павел Сяцко, Людвіка Таўгень, Алег Трусаў, Дзяніс Тушынскі, Аляксей Шалахоўскі.

**http://nslowa.by/ http://naszaslowa.by/ http://pawet.net/ http://kamunikat.org/ http://tbm-mova.by/ http://belkiosk.by/**

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі. Рэдакцыя рукапісы не вяртае.*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.
Выдавец: Установа інфармацыі "Выдавецкі дом ТБМ".
Газета падпісана да друку 1.04.2019 г. у 17.00. Замова № 800.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы. Наклад 1500 асобнікаў.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 2,37 руб., 3 мес.- 7,11 руб.
***Кошт у розніцу:*** па дамоўленасці.